Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 5(41) 2 — 8 лютага 1996 года ЦАНА 1000 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Кожнаму адказчыку – па перакладчыку?

На мінулым тыдні ў грамадзянскім працэсе па іску галоўнага ўрача раддома Аляксандра Лавіта да "Рэгіянальнай газеты" аб абароне гонару і годнасці суддзя Маладзечанскага гарадскога суда Яўген Казлоў прапанаваў прадстаўніку адказчыка Аляксандру Манцэвічу скарыстацца паслугамі перакладчыка. Прычына– сакратар не магла весці пратакол па-беларуску. Каб не зацягваць пасяджэнне, якое і без таго адкладвалася не аднойчы, прадстаўнік рэдакцыі згадзіўся размаўляць у судзе па-руску. За што суд і падзякаваў.

*Аддзел інфармацыі.*

## Хачу "Мерседэс"!

***Для нас, беларусаў, любая мадэль легкавіка– іншамарка. Бо сваіх пакуль не робім. Але мы ўжо ведаем, чым адрозніваюцца паміж сабой нават знешне такія замежныя аўто, як, напрыклад, "Запарожац", "Масквіч" і "Форд", "Мерседэс"...***

"Жыгулі", праўда, карыстаюцца немалым поспехам у аўтааматараў. Аднак у апошні час значна ўзрос попыт на заходнееўрапейскія маркі. Прытым, у большасці не новыя і таму не дарагія.

І попыт гэты паспяхова задавальняўся смелымі хлопцамі, якія пад пагрозай быць абрабаванымі, нават забітымі, зноў і зноў перасякалі мяжу, каб праз некалькі дзён прапанаваць пакупнікам яшчэ адну выдатную "тачку".

Паўгода назад у сувязі з павелічэннем мытных пошлін імпарт машын спыніўся. Цікава, што і казна наша пры гэтым панесла страты. Таму нядаўна Кабінет Міністраў сваёй пастановай унёс карэктывы ў збор пошлін. Кожны грамадзянін рэспублікі цяпер атрымлівае права адзін раз у год увозіць аўтамабіль замежнай вытворчасці для асабістага карыстання. Пры гэтым аплата мытнай пошліны будзе рабіцца з разліку 0,3 ЭКЮ за адзін куб. см. аб'ёму рухавіка, а не 5 ЭКЮ, як было дагэтуль.

Праўда, уладальнік замежнай машыны на працягу двух гадоў не будзе мець права прадаць або перадаць яе ў карыстанне іншым асобам, за выключэннем членаў сваёй сям'і. Інакш прыйдзецца заплаціць пошліну па ранейшай стаўцы– 5 ЭКЮ.

*Аддзел інфармацыі.*

## Беларускія хлопцы спяваюць польскія песні

***АШМЯНЫ. Спартсменаў з Ашмян ведаюць далека за межамі раёна і не як майстроў міжнароднага класа, а проста як вясёлых добрых людзей, энтузіястаў, спартсменаў-аматараў..***

За мінулыя гады ўзнік, як жартуюць ашмянцы, сямейны саюз: Ашмяны-бацька, Вільнюс-маці і гарады Польшчы, як вынік узаемаадносінаў. Бацькі толькі-толькі размянялі шосты дзесятак, бо іх сяброўства ўзнікла адразу пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны і сёння да іх прыйшла другая маладосць. Часцяком збіраецца сямейны саюз, у асноўным у Літве і Польшчы. Летась у Вільні на турыстычным злёце была магчымасць праявіць сябе, і не толькі ў спартыўных справах. Каманда з Ашмян заняла 1-е месцы па спартыўнаму арыентаванню, у конкурсах польскай песні, малюнкаў адпаведнай тэматыкі. Горш выступіла ў спаборніцтвах знахараў, кухараў, лоўлі рыбы. На жаль, ніхто з жанчын не прывёз дадому званне "Міс злёту". Каманда Ашмян так усім спадабалася, што была запрошана ў польскі горад Бяла-Падляску на трэці міжнародны Надбужанскі рэйд– традыцыйныя спаборніцтвы турыстаў.

–Сёлета дастаткова будзе міжнародных сустрэч, спаборніцтваў, турніраў,– дзеліцца планамі Збігнеў Камінскі, старшыня камітэта па фізічнай культуры і спорту райвыканкома.– Мясцовымі прыхільнікамі спорту заўсёды кіравала не СКВ, а УСВ– узаемаразуменне, сяброўства, спартыўныя вынікі. Так было і, я спадзяюся, будзе.

*Васіль САВІЦКІ.*

**Навіны рэгіёна**

## Ашмяны– новыя Васюкі?

***Такое ўражанне, што ў горадзе і раёне шахматамі захапляецца большая частка насельніцтва. Некаторыя толькі знаёмяцца з каралём, каралевай і іх арміяй. А іншыя на дошцы змагаюцца з такой упартасцю, быццам ад гэтага залежыць само жыццё.***

–Раней дзе толькі ні гулялі. Праводзілі турніры ў рэдакцыі газеты, доме культуры,– успамінаюць ветэраны,– а цяпер месца сустрэчы змяніць нельга: у тым жа месцы і ў той жа час.

Для ўсіх растлумачу– у шахматным клубе, у суботу і нядзелю.

У парку ля кінатэатра стаіць прыгожы драўляны будынак. На выхадныя, святы адчыняюцца дзверы, прыходзяць школьнікі, моладзь, людзі больш сталага ўзросту, пенсіянеры. Дастаткова сказаць, што кожны год праводзіцца дзесяць традыцыйных турніраў. Сярод удзельнікаў не толькі аматары. Восем чалавек маюць першы разрад. Клубаўцы ўспамінаюць майстроў спорту, якія пачыналі займацца шахматамі ў Ашмянах: Іосіфа Садоўскага, галоўнага энергетыка аднаго з прадпрыемстваў Санкт-Пецярбурга, жыхара Канады Барыса Расіцана.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Іерусалім

***убачыць на свае вочы вучаніца СШ №4 Надзя Смалькова, удзельніца міжнароднага конкурсу "Дзеці свету малююць Іерусалім"***

Надзя з другога класа падае вялікія надзеі. Яна займаецца ў класе з мастацкім ухілам, вывучае малюнак, жывапіс, кампазіцыю, гісторыю мастацтва, сама малюе, робіць габелены, калажы, роспіс па дрэву. Яе работы не раз выстаўляліся на розных выстаўках дзіцячых малюнкаў. Вось і цяпер яе твор "Горад дзяцінства" выстаўлены ў фае цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Багдановіча.

Але сапраўднай сенсацыяй і для школы, і для горада стала яе перамога ў конкурсе, прысвечаным тысячагоддзю Іерусаліма. Сотні работ даслалі на гэты конкурс дзеці з шасцідзесяці краін свету. З гэтай колькасці кампетэнтнае журы адабрала ўсяго дванаццаць палотнаў, адным з якіх і аказалася акварэль Надзі Смальковай "Нябесны Іерусалім". Дарэчы, гэта адзіная адабраная работа з дасланых з тэрыторыі СНД. Зараз яна разам з адзінаццацю іншымі лепшымі дзіцячымі карцінамі выстаўлена ў адным з буйнейшых іерусалімскіх музеяў. Сама ж Надзя ўзнагароджана тыднёвай паездкай у Ізраіль. Там яна зможа параўнаць свае ўражанні пра адзін са старажытнейшых гарадоў свету з яго сапраўдным абліччам.

*Андрэй БАЖКО.*

## Ізноў падпалы?

***НАРАЧ. У гэтай буйнейшай вёсцы Мядзельшчыны ў мінулы панядзелак позна вечарам загарэўся хлеў аднаго з жыхароў.***

Як гаворыцца, кампетэнтныя органы высвятляюць прычыну гэтага. А ў вяскоўцаў на душы зноў стала вельмі трывожна: усе ўспамінаюць серыю начных падпалаў розных дапаможных памяшканняў летам мінулага года. Тады злачынцу (альбо злачынцаў) міліцыі ўстанавіць не ўдалося. Няўжо падпальшчыкі зноўку ўзяліся за старое?

*Наш кар.*

## Вось дзе вілейскі тварог падзеўся

***Нядаўна рэйдавая група Мядзельскага РАУС спыніла на дарозе звычайную "Ніву".***

Вадзіцель па патрабаванню супрацоўнікаў міліцыі прад'явіў дакументы. Апрача яго ў камфартабельным "усюдыходзе" сядзелі тры мужчыны і жанчына. Усе– жыхары Вілейкі. Пытанне: "Што за груз у машыне?" вадзіцеля збянтэжыла. І, як потым высветлілася, не без прычыны. Верыцца з цяжкасцю, аднак у "Ніве" неўзабаве выявілі ажно паўтоны тварагу. І гэта, напамінаю, апрача пяці чалавек.

Аказваецца, вілейчане скупілі яго ў сваіх магазінах і везлі, па іх словах, на базар у Полацк, дзе і разлічвалі прадаць з выгадай. Пры гэтым яны маглі мець на кожнага па 50 долараў ЗША.

Оперупаўнаважаны па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Мядзельскага РАУС Віктар Барысееў не выключае, што "камерсанты" ехалі не ў Полацк, а значна далей– у Расію. Аднак гэта ўжо дэталі. Учыненае вілейчанамі злачынства кваліфікуецца як спекуляцыя, на іх узбуджана крымінальная справа. І "атрымаць" за гэта, па адпаведнаму артыкулу крымінальнага кодэксу, можна да шасці год пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.*

## А мёд аказаўся горкім

***МЯДЗЕЛ. У адну з цёмных ночак са склада мясцовай нарыхтоўчай канторы ўкралі цэлую флягу пчалінага мёду.***

Кілаграмаў пад пяцьдзесят. Супрацоўнікі міліцыі спрацавалі надзіва аператыўна. Неўзабаве ім удалося ўстанавіць, хто ўчыніў грабеж. Па меншай меры– аднаго. Калі прыйшлі з вобыскам на кватэру да грамадзяніна С. па вуліцы Юбілейнай, то там якраз вялася дзяльба-распродаж лекавай прадукцыі. Прытым, як можна меркаваць, даволі бойка, бо фляга аказалася амаль напалавіну апарожненай. Цяпер следства высвятляе ў грамадзяніна С.: злачынства ён учыніў адзін, альбо ў яго былі памагатыя?

*Наш кар.*

## Здольны матэматык з глыбінкі

***Гонар Валожыншчыны на абласных прадметных алімпіядах абараняла зборная, куды ўваходзілі 15 вучняў райцэнтраўскай СШ. Лепш за астатніх выступіла каманда па нямецкай мове, якая заняла трэцяе прызавое месца і паднялася на прыступку вышэй леташняга.***

Поспех напаткаў навічка алімпіяд, васьмікласніка Яўгена Куцука., Ён набраў максімальную колькасць балаў і заняў першае месца па матэматыцы. Яўген увайшоў у зборную вобласці і будзе выступаць на рэспубліканскай алімпіядзе.

## Камп'ютэры ў школе-інтэрнаце

***ВАЛОЖЫН. З гэтага навучальнага года ў раскладзе 8 і 9 класаў Валожынскай спецшколы-інтэрната з'явіўся новы прадмет– інфарматыка і вылічальная тэхніка.***

Прадмет увялі, а вось матэрыяльнай базы для правядзення ўрокаў практычна не было. На дапамогу прыйшлі ў літаральным сэнсе добрыя суседзі– аддзяленне Ашчаднага банка, будынак якога знаходзіцца побач. У дні калядных святкаванняў кіраўнік аддзялення Т. Пасека перадала ўстанове два камп'ютэры. Яшчэ два прывезлі супрацоўнікі Міністэрства замежных спраў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

***Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце прызнана лепшым па выніках работы за мінулы год***

## Хроніка некалькіх здарэнняў

***... Пенсіянер з Наваполацка, інвалід ІІ групы, захацеў зэканоміць грошы і, каб даехаць да Мінска, выкарыстаў "танныя" цягнікі. У сталіцы захацеў заказаць спецыяльны абутак для пратэза. На станцыі Маладзечна да яго падышлі дзве жанчыны і мужчына.***

Стары паскардзіўся на жыццё– цяжка жыць, калі ў кішэні пенсіі за некалькі месяцаў толькі-толькі хапае на пратэз. Незнаёмыя пашкадавалі дзеда і ... пачалі яго душыць. Абрабавалі і зніклі. Пасажыр, чырвоны ад крыўды і здзекаў, звярнуўся да дзяжурнага міліцыянера. Праз лічаныя хвіліны "джэнтльмены ўдачы" былі затрыманы на вуліцы ля туалета за падзелам рэчаў.

... Жыхар Дзяржынска на цягніку Масква-Калінінград ехаў у Каўнас. У купэ пазнаёміўся з двума спадарожнікамі. Узнялі пару-другую кілішкаў за Беларусь, Расію, здароўе родных і сваякоў. На станцыі Маладзечна жыхар з-пад Мінска паляпаў па кішэнях, прыйшоўшы ў прытомнасць. Знікла 5 тысяч долараў ЗША. Разам з добразычлівымі расіянамі. Маладзечанская міліцыя працавала амаль дваццаць чатыры гадзіны запар– своечасова дала арыенціроўку па ўсіх аддзелах, участках абслугоўвання, на мытню, пагранічнікам. Злодзеі былі затрыманы на станцыі Гудагай, пры праверцы аказаліся жыхарамі Балтыйска.

А вось некалькі прыкладаў з матэрыялаў рэйдаў, што праводзіліся з мэтай выявіць парушэнні ў гандлёвай сетцы, якая абслугоўвае маладзечанскіх чыгуначнікаў. У полацкім напрамку на ст. Княгінін выяўлена ўтойванне тавараў ад пакупнікоў. А работнікі сталоўкі №8 падманвалі наведвальнікаў, выкарыстоўваючы "левыя" накладныя, у якіх значна завышаліся цэны. У гэтых выпадках ступілі на слізкую дарожку прадстаўніцы слабай паловы чалавецтва.

–За кошт чаго дабіваецеся поспехаў,– пытаюся ў следчага транспартнай міліцыі з Маладзечна Сяргея Герасімовіча.

–Самае галоўнае ў нашай рабоце– прафесіяналізм і працаздольнасць,– чую ў адказ.

*Васіль САВІЦКІ.*

